І бацька дазволіў, а ўсе старэйшыны родаў таксама згодна заківалі галовамі.

Дзяўчына паднесла да вады каралі, якія пераліваліся пад сонцам празрыстым мядовым колерам.

— Вазьмі, Дзвіна, наша маці-карміцелька, гэту аздобу з сонечных каменьчыкаў. А за гэта давай нам рыбу і трымай моцна на сваіх хвалях нашы чоўны. І яшчэ пашлі нам, Дзвіна, доўгі мір.

Расціснула кулачкі дзяўчына — саслізгнулі каралі ў хуткі рачны струмень. Прыняла ахвяру рака. І сталася так, як прасіла Куніца.

***

Дагарэлі першабытныя вогнішчы. Тыя, хто грэўся каля іх, адплылі ў нябыт па Рацэ часу. Але жылі яны не марна і зніклі не бясследна. Чаго б мы былі вартыя сёння, каб людзі яшчэ на світанку сваёй гісторыі не навучыліся здабываць агонь, вырабляць прылады працы, прыручаць жывёл, вырошчваць расліны? Наступныя эпохі — бронзавы, жалезны вякі — прынеслі новыя адкрыцці і здабыткі, але яны былі б немагчымыя без дасягненняў каменнага веку.

Нашы далёкія продкі: мужныя паляўнічыя і воіны, руплівыя збіральнікі і рыбакі, працавітыя земляробы і жывёлаводы — перадалі паходню жыцця сваім нашчадкам. На працягу доўгіх тысячагоддзяў пераходзіла яна ад пакалення да пакалення. Ажно пакуль не трапіла да нас з вамі. Каб мы трымалі яе высока і не давалі пагаснуць. Каб памяталі пра мінулае і клапаціліся пра будучае.

© OCR: Камунікат.org, 2012
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2012
© PDF: Камунікат.org, 2012

Чарняўскі М. М.

Страла Расамахі: [Для сярэд. шк. узросту].— Мн.: Нар. асвета, 1985.— 55 с., іл.

55 к.

У кнізе амешчаны кароткія нарысы, якія расказваюць пра жыццё чалавека каменнага веку: авалоданне агнём, паляванне, рыбалоўства, развіццё земляробства, жывелагадоўлі. Нарысы суправаджаюцца каляровымі ілюстрацыямі.